47 гадоў таму выдаў сваю першую прадукцыю Скідальскі цукровы камбінат. З таго часу прадпрыемства непазнавальна змянілася, пашырылася. Акрамя высакаякаснага цукру тут яшчэ вырабляюць і лімонную кіслату — дарэчы, гэта прадпрыемства адно з пяці ў СНД, якія выпускаюць такую прадукцыю.

Некалькі соцень тон сырцу перапрацоўваюць за суткі ў цэхах камбіната — такая магутная вытворчасць патрабуе вялікіх энергазатрат. Таму адзін з галоўных накірункаў удасканалення тэхналагічных працэсаў — змяншэнне іх энергаёмістасці.

***На здымках:***

- на складзе цукру-сырцу;
- на сучасным прадпрыемстве не лішні і такі від транспарту, перакананы рабочы Міхаіл Радзюк;
- Алену Фокіну ведае ўся дзятва заводскага пасёлка — яна былая выпускніца Гродзенскага педвучылішча, а зараз выхавальніца мясцовага садзіка.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**





## ЮБІЛЕЙ АДАМА МІЦКЕВІЧА АДЗНАЧАЕ ЎСЯ БЕЛАРУСЬ

***1998 год — знамянальны для Беларусі, для Польшчы і для ўсяго славянскага свету. Спаўняецца 200 гадоў з дня нараджэння славутага паэта Адама Міцкевіча.***

***Карэспандэнт «Звязды» звярнулася з пытаннямі да галоўнага спецыяліста ўпраўлення сацыяльна-культурнай палітыкі апарату Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, члена арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенню мерапрыемстваў, звязаных з 200-годдзем з дня нараджэння А. Міцкевіча, Уладзіміра ЛАМЕКІ.***

**— Яшчэ восенню мінулага года Прэзідэнтам Беларусі быў падпісаны Указ аб святкаванні 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Быў створаны арганізацыйны камітэт, куды ўвайшлі вядомыя ў рэспубліцы людзі. У канцы студзеня адбылося чарговае пасяджэнне аргкамітэта. Раскажыце, калі ласка, больш падрабязна пра тыя мерапрыемствы, што плануюцца з нагоды юбілею паэта.**

— Хачу заўважыць, што ўрачыстасці, прысвечаныя юбілею Міцкевіча, распачаліся яшчэ ў канцы мінулага, 1997 года. 24 снежня, у дзень нараджэння паэта, на яго радзіме, у Навагрудку, адбылося вялікае свята, у якім прынялі ўдзел Міністэрства культуры рэспублікі, а таксама абласныя і мясцовыя выканаўчыя ўлады. Цяпер поўным ходам ідзе падрыхтоўка да навукова-тэарэтычнай канферэнцыі «Супольнасць гістарычных лёсаў беларускага і польскага народаў — супольнасць спадчыны А. Міцкевіча». На яе запрашаюцца навукоўцы і пісьменнікі з усяго свету. Мяркуецца, што канферэнцыя пройдзе ў самым канцы лютага ў Брэсце.

На правядзенне юбілейных урачыстасцяў дзяржавай выдзелены немалыя сродкі. Гродзенская і Брэсцкая вобласці атрымаюць адпаведна 25 і 5 мільярдаў рублёў на рэканструкцыю і ўпарадкаванне тых мясцін, што звязаны з жыццём і дзейнасцю Адама Міцкевіча. Найперш гэта Завоссе ў Баранавіцкім раёне Брэсцкай вобласці, дзе паэт нарадзіўся, Навагрудак, Туганавічы і многія іншыя месцы, дзе Міцкевіч жыў і тварыў, сталеў. Пройдуць мастацкія выставы, паэтычныя вечарыны.

**— Трэба думаць, што працэс аднаўлення і рэканструкцыі гістарычных мясцін на Беларусі, звязаных з жыццём славутага паэта, распачаўся не цяпер, падчас юбілею...**

— Безумоўна. У Навагрудку даўно дзейнічае музей Адама Міцкевіча. Не так даўно там адбылася рэканструкцыя. Але трэба рэканструяваць Курган Бессмяротнасці, што насыпаны ў гонар Міцкевіча, упарадкаваць шляхі, што вядуць да яго. Словам, зрабіць прывабнымі для турыстаў, што захочуць пабываць у Беларусі, розныя мясціны, што натхнялі Міцкевіча на стварэнне бессмяротных твораў. Дамінантай усіх урачыстасцяў будзе міжнароднае свята паэзіі ў Навагрудку. Папярэдняя дата яго правядзення — 11-12 верасня.

**— Уладзімір Барысавіч, я думаю, што юбілей паэта, які сёлета так шырока адзначаецца і ў Беларусі, з'явіцца штуршком да таго, каб творчасць паэта нарэшце стала вывучацца школьнікамі, каб у кнігарнях можна было набыць паэмы Міцкевіча, прасякнутыя духам пяшчотнай любові да Беларусі, да той зямлі, якая ўзгадавала яго...**

— Адам Міцкевіч — найперш геній польскай літаратуры. І кожны паляк з маленства ведае яго паэзію, шануе паэта, ганарыцца ім. Але ж Міцкевіч — сын беларускай зямлі. І цяпер прыйшоў час сказаць гістарычную праўду. А яна заключаецца ў тым, што ўсе творы паэта — гэта гімн беларускай зямлі, той радзіме, якая дала яму паэтычныя крылы, узгадавала яго як асобу. Той жа «Пан Тадэвуш» — энцыклапедыя нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі, энцыклапедыя прыроды Беларусі. Недарэчным з'яўляецца той факт, што Міцкевіч на Беларусі быў увесь час як бы адгароджаны ад нашай нацыянальнай свядомасці. Пра гэта сёння пішуць нават некаторыя польскія даследчыкі. Я разумею, што трактаваць адназначна нацыянальную прыналежнасць паэта не выпадае. Ён належыць і палякам, і беларусам, і ўсяму свету — гэтак жа як і геніяльны Пушкін. Ёсць нешта сімвалічнае ў тым, што яны былі сябрамі. Пушкін назваў Міцкевіча песняром Літвы (маючы на ўвазе не этнічную Літву, а гістарычную. — **У. Л.**). Яны сустракаліся, калі Міцкевіч быў у Расіі ў выгнанні. Можа гэтыя два геніі XIX стагоддзя дапамогуць нам знівеліраваць, а можа і зняць тыя супярэчнасці, спрэчкі, што спрадвечна існуюць паміж Усходам і Захадам.

Што датычыцца выдання твораў Міцкевіча, то тут справа рухаецца. Дзяржаўны камітэт па друку інфармаваў арганізацыйны камітэт, што выдавецтва «Мастацкая літаратура» ажыццяўляе сёлета перавыданне паэмы «Пан Тадэвуш» у перакладзе Я. Семяжона і з ілюстрацыямі В. Шаранговіча. Яно ж ужо выпусціла І том Поўнага збору твораў Міцкевіча, рыхтуе ІІ том. Выдавецтва «Беларусь» падрыхтавала кнігу вершаў беларускіх паэтаў «У вянок Адаму Міцкевічу».

Выдавецтва «Полымя» будзе выдаваць бессмяротныя санеты Адама Міцкевіча, дзе ўсё дыхае жывой беларускай рэчаіснасцю. Рыхтуецца навуковая манаграфія выдавецтвам «Беларуская навука», а таксама альбом.

Цікавая прапанова паступіла з Масквы. Маскоўскае газетна-часопіснае аб'яднанне «Воскресение» прапануе выдаць сумесна з Польшчай і Беларуссю «Пана Тадэвуша» на трох мовах. Мы прынялі рашэнне станоўча адказаць на гэтую прапанову.

**— Мяркуючы па сказанаму, беларусы нарэшце змогуць у больш поўнай меры ацаніць творчасць Міцкевіча і яе значэнне для нашай культуры. Пры ўмове, калі і Міністэрства адукацыі знойдзе магчымасць увесці ў школьныя праграмы для абавязковага вывучэння сусветна вядомыя творы пра Беларусь.**

**Таццяна АНТОНАВА.**

*ПОГЛЯД*

## ГОДЗЕ БЕЛАРУСАМ У АДЗІНОЦЕ ЗАСТАВАЦЦА НАРОДАМ БЕЗ НАЦЫЯНАЛЬНАГА УНІВЕРСІТЭТА!

Кожны раз, калі пачыналася чарговая хваля беларускага Адраджэння, яго самыя актыўныя дзеячы ў абавязковым парадку ўздымалі і пытанне аб стварэнні нацыянальнай сістэмы адукацыі. У гэтым яны мелі рацыю, бо на чужых гістарычных традыцыях, духоўнай спадчыне і мове не ўзгадуеш нацыянальна свядомыя маладыя пакаленні. Тут патрэбна абапірацца найперш на свае традыцыі, культурна-моўнае багацце.

Гаворка аб пільнай патрэбе стварэння на Беларусі навучальных устаноў вышэйшага тыпу, якія працавалі б на роднай мове, не раз уздымалася і на старце сучаснага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Праўда, апошнім часам мы больш гаворым пра рэфарміраванне адукацыі ўвогуле, не выдзяляючы ў ёй нацыянальнага аспекту, а тым больш закладкі беларускамоўнай вышэйшай школы. І дарэмна, бо без яе ў нас як след не запрацуюць нават і нацыянальныя пачатковыя школы.

Ад многіх даводзілася чуць, што заснаванне вышэйшых навучальных беларускамоўных устаноў павінна распачынацца толькі пасля таго, як яны будуць забяспечаны дастатковай колькасцю падручнікаў і дапаможнікаў, іншай неабходнай для гэтых мэтаў літаратурай. Не прызнаць важнасці названага фактару ніяк нельга.

Аднак адсутнасць такога не можа быць прычынай не ісці на адкрыццё беларускамоўнага універсітэта. Галоўнае тут, лічу, наяўнасць патрэбнай колькасці абітурыентаў, якія да такой ступені валодалі б беларускай мовай, каб пасля паступлення на вучобу без асаблівых цяжкасцяў маглі ўспрымаць і разумець пачутае на ёй на лекцыях сваіх педагогаў і самі маглі выкладаць свае думкі па-беларуску.

Відаць такія маладыя людзі найперш за ўсё прыйдуць ва універсітэт з сельскай мясцовасці.

Калі мы прымем ва універсітэт студэнтаў з выдатнай беларускамоўнай падрыхтоўкай ды яшчэ з належнай нацыянальнай самасвядомасцю, нас тады не павінен палохаць нават крайне востры дэфіцыт беларускамоўных падручнікаў і дапаможнікаў. Чалавек, які дасканала валодае, думае на роднай мове, ён у яе форму вельмі лёгка пераўвасабляе ўсё, што пачэрпнута з іншых раней засвоеных моваў. Сцвярджаю гэта, зыходзячы з уласнай практыкі. Хаця я прыехала з Башкірыі на Беларусь у 1958 годзе, яе мовай, на вялікі сорам, не валодала і праз тры дзесяткі гадоў. Лічыла, што няма ў гэтым аніякай патрэбы, бо і сапраўды мне цалкам хапала ведаў толькі па рускай мове, каб працаваць ва ўстановах дашкольнага выхавання, апараце Міністэрства народнай асветы БССР, выкладаць у Мінскім педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага, абараніць кандыдацкую і доктарскую дысертацыі, стаць прафесарам. Аднак калі на Беларусі пачаўся, на мой погляд, вельмі прагрэсіўны, заканамерны рух за нацыянальна-культурнае адраджэнне, я проста не магла заставацца ў баку ад гэтай вялікай гістарычнай важнасці падзеі. Хацелася хоць у чымсьці дапамагчы дарагому і любімаму, братняму мне народу, які такія катастрафічныя страты панёс у сваёй нацыянальнай культуры, адукацыі і мове з-за працяглай палітыкі паланізацыі і русіфікацыі. Забыўшыся на свой пенсійны ўзрост, гіпертанічную хваробу, цалкам акунулася ў вывучэнне беларускай мовы, каб выкладаць на ёй гісторыю педагогікі. Затрачаныя на гэта паўтара-два гады лічу за самыя цікавыя, плённыя і карысныя ў маім жыцці. Гэта ж толькі падумаць: я валодаю мовою народа, да якога этнічна не належу, але зямля якога стала для мяне другой радзімай! Цяпер, калі я рыхтуюся да чарговай лекцыі, мне зусім не важна, якой дзеля гэтага даводзіцца карыстацца літаратурай — беларуска- ці рускамоўнай. Без усякай цяжкасці прачытанае трансфармуецца ў маёй галаве на беларускі лад, а затым кладзецца на паперу. Такое ж, не сумняваюся, будзе назірацца і ў беларускамоўных студэнтаў універсітэта. Праблема тут яўна надуманая. Таму давайце без прамаруджвання рыхтавацца да яго адкрыцця ў 1998/99 навучальным годзе з тым, каб гэта знамянальная для беларускага народа падзея ўсё ж адбылася не ў XXI стагоддзі трэцяга тысячагоддзя, а яшчэ ў XX стагоддзі другога тысячагоддзя.

Трэба лічыць беспадстаўным усякі страх, што навучанне студэнтаў універсітэта выключна толькі на беларускай мове зробіць іх зусім няздольнымі творча працаваць у сферах — а яны ў нас яскрава пераважаюць скрозь, — дзе пануе руская мова. Апошняй яны абавязкова будуць валодаць, бо давядзецца ж пры падрыхтоўцы да практычных заняткаў, напісанні курсавых, кантрольных і дыпломных работ, напярэдадні здачы экзаменаў у значнай ступені карыстацца і рускамоўнай літаратурай. А галоўнай жа вучэльняй па рускай мове для студэнтаў, як і для ўсіх жыхароў Беларусі, відаць, яшчэ надоўга будуць заставацца нашыя да краёў напоўненыя рускай мовай усе сферы грамадскага жыцця.

Не гарантую стопрацэнтную верагоднасць пачутага ад адной са сваіх каляжанак па працы. Але яна паведаміла мне наступнае: у адным з нямецкіх перыядычных выданняў быў змешчаны красворд, адно з пытанняў якога патрабавала назваць еўрапейскую краіну, дзе няма нацыянальных сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў. У адведзенае ў красвордзе месца вельмі ўтульна і па-за ўсякай канкурэнцыяй умяшчалася ў адпаведнасці з напісаннем па-нямецку назва нашай краіны.

Выходзіць, што ў Еўропе мы толькі адны, дзе нацыянальная мова не абслугоўвае вышэйшую школу, і на нас пазіраюць, як на белую варону ці белага вераб'я. Але не гэта трэба разглядаць у якасці асноўнай прычыны, што абавязвае дзяржаву, грамадскасць, асабліва педагагічную інтэлігенцыю, брацца за адкрыццё нацыянальнага універсітэта.

Ён перш за ўсё патрэбны самому беларускаму народу для сцвярджэння сябе ў якасці цывілізаванай этнічнай супольнасці з самабытнай культурай, у аснове якой заўжды ляжала і будзе ляжаць нацыянальная адукацыя. У наш час, як ніколі раней, надзвычай важна, каб такой была і вышэйшая школа. Гэтую лёсавызначальную праблему вырашылі — і ўжо даўно — усе цывілізаваныя народы, у тым ліку і славянскія. Час далучыцца да іх і беларусам.

Улічваючы высокі ўзровень русіфікацыі ўсіх катэгорый і пластоў беларускага народа, не выключаючы педагагічнай інтэлігенцыі і студэнтаў, што працуюць і вучацца ў ВНУ, ні ў якім разе нельга ствараць нацыянальны універсітэт на базе адной з іх шляхам правядзення ў ёй лакальнага рэферэндуму адносна мовы навучання. Усё гэта можа выклікаць зусім непатрэбнае для нас процістаянне беларуска- і рускамоўных выкладчыкаў і студэнтаў.

Пакуль не ўзведзены новы ў строга беларускім архітэктурным стылі будынак, пад нацыянальны універсітэт трэба выдзеліць неабходную колькасць памяшканняў, якія сёння належаць той ці іншай вышэйшай навучальнай установе. Пажадана, каб нацыянальны універсітэт знаходзіўся ў самым прэстыжным, людным месцы горада і да таго ж з багатымі традыцыямі функцыянавання вышэйшай адукацыі. Мэтазгодна, каб у год закладкі нацыянальнага універсітэта ў ім працавалі толькі першыя курсы. Прычым пераважная колькасць студэнтаў павінна набірацца на гуманітарныя факультэты. Затым, каб надаць гэтай беларускамоўнай вышэйшай навучальнай установе сапраўдны універсітэцкі статус, у ёй трэба адкрыць і ўсе астатнія факультэты.

**Ефрасіння АНДРЭЕВА,**
**прафесар кафедры агульнай педагогікі БДПУ імя Максіма Танка, доктар педагагічных навук.**

*ПЕРШЫ ВОДГУК*

## МНЕ СОРАМНА... А ВАМ?

Артыкул прафесара Андрэевай я прачытаў перад яго выхадам у свет. Безадносна да ідэі, а яна, канешне, вельмі і вельмі прывабная, артыкул выклікаў цэлую гаму складаных пачуццяў. Дачытаўшы да палавіны, ваш пакорны слуга пачаў пакрыху чырванець. Пад канец гэты працэс набыў бурны характар. Хаця ў маім узросце чалавек амаль губляе здольнасць мяняць колер твару. Мне стала элементарна сорамна. Прычым за іншых гаварыць не буду: на жаль, мне добра вядомыя адносіны пераважнай большасці беларусаў да нацыянальнага пытання. У лепшым выпадку яно ніякае.

Як нас вучыў Народны фронт вуснамі Зянона Станіслававіча? Расія ёсць «імперыя зла». З ёю нельга мець справу, Расія заўсёды будзе «цягнуць коўдру» на сябе, падмінаць слабых. Ну што ж, што так — тое так: рэшткі імперскай свядомасці ў расійскага істэблішменту, безумоўна, захаваліся. І ў часткі звычайных расіян таксама. Гэта зразумела, мы ўсе хварэем, кожны па-свойму. Расіянін сумуе па былой велічы, беларус — па беспраблемнасці. Але тут не ўся праўда. Тэзіс Пазняка церпіць з-за аднабаковасці, таму не вытрымлівае крытыкі.

Трэба ўсё ж такі падзяляць: ёсць расійскія палітыкі — і ёсць расійская інтэлігенцыя, дакладней, яе прагрэсіўная частка. У іх розныя мэты, розны менталітэт, нарэшце, розныя адукацыя і выхаванне. Адной рукой метраполія дасылала да нас чэкістаў, чыноўнікаў і інш., другой — вучоных. Варта нагадаць, што нашу галоўную навучальную ўстанову — БДУ — стваралі таксама і расійскія вучоныя. Не можа так быць, каб маленькая краіна існавала сама па сабе, як бы ў вакууме. Уплывы ўсё роўна будуць. Я маю на ўвазе ўплывы культурныя. Урэшце, справа нават не ў гэтым.

Перад намі зусім канкрэтная сітуацыя. Ефрасіння Андрэева, скажам так, расіянка. Але чалавек пражыў у Беларусі чатыры дзесяцігоддзі. І вось у канцы жыццёвага шляху гэты чалавек рашае вывучыць беларускую мову, вывучае яе пасняхова, піша і думае па-беларуску, лекцыі чытае таксама на беларускай мове. І — парадокс — вылучае ідэю стварэння нацыянальнай навучальнай установы. Шмат вы ведаеце маладых беларусаў, якія захацелі вывучыць і вывучылі сваю родную мову?

А вось жа чалавек, рускі па менталітэту і адукацыі,яна за нас перажывае больш, чым мы самі за сябе, як з ім быць? Чаму такая, здавалася б, простая ідэя, якая ляжала на паверхні, не прыйшла ў галаву беларусу? Таму, для каго яна, гэта ідэя прызначана? І ў чыю нацыянальна свядомую галаву яна павінна была прыйсці?

Ну, верагодна, гэта справа нацыянальнай інтэлігенцыі. Пісьменнікаў, гісторыкаў, лінгвістаў, выкладчыкаў ВНУ і г. д. Яны ведаюць, як арганізаваць такую навучальную ўстанову, яны б самі пайшлі туды выкладаць. Пры адной, праўда, умове: каб «чорную» работу зрабіў нехта іншы. Я іх пачалавечы разумею. Гэта ж трэба ўздымаць шум у друку, трэба хадзіць па інстанцыях, даказваць, патрабаваць, — адным словам, прыцягваць да сябе ўвагу. А ці спадабаецца гэта ўладам? Ці не трапіш потым у «чорны спіс»? Ёсць падстава падумаць, бо ў выдавецтве ляжыць рукапіс, а на рабоце і так коса паглядаюць. Могуць быць непрыемнасці...

Быў такі кароткі адрэзак часу, калі гаварыць на роднай мове было нават модна (!). Цяпер маятнік хіснуўся назад, цяпер беларускамоўныя грамадзяне зноў сталі «националистами». Увогуле, даволі дзіўна гэта гучыць: беларускамоўныя грамадзяне. Скажам, у Латвіі і Эстоніі ёсць рускамоўныя. Але яны ўсё ж не на радзіме, яны там чужынцы — назва, можна лічыць, апраўданая. Аднак, калі працягнуць аналогію, то беларускамоўныя на сваёй уласнай радзіме таксама з'яўляюцца чужынцамі. Як гаворыцца, нонсенс...

А вось яшчэ цікавая праекцыя. Згодна з ёй любы народ, які размаўляе на роднай мове, ёсць народ нацыяналістычны. І рускія, і татары, і карэйцы, і французы, і брытанцы, і шатландцы, — карацей, усе без выключэння. Так што беларусы з'яўляюцца, можа быць, адзіным у свеце (у Еўропе дакладна адзіным) народам, які пазбаўлены жудасцяў нацыяналізму. Я рады за нас...

Што цікава, ідэя Ефрасінні Андрэевай не новая. Яна была агучана некалькі гадоў таму адным народным дэпутатам. Далей агучвання, праўда, справа не пайшла. Верагодна, гэта быў толькі добры намер? Але мне зараз здаецца (можа памылкова?), што ідэя стварэння цалкам нацыянальнай навучальнай установы была самай значнай пасля атрымання суверэнітэту. Па сутнасці гэта адзіны рэальны шлях: вучыць людзей быць беларусамі, каб потым яны вучылі іншых людзей таксама быць беларусамі. Можа быць, я памыляюся, але на барыкадах можна навучыцца толькі нянавісці. Стваральнай ідэі вы там не знойдзеце. Стварэнне — работа цяжкая, карпатлівая і не разлічаная на імгненны вынік.

Горкім у артыкуле прафесара Андрэевай мне падаўся прыклад з красвордам. Увогуле, гэта пачуццё, пачуццё сваёй недаробленасці, другасортнасці, яно пастаянна жыве ў душы. Дастаткова націснуць на гэтую болевую кропку — і губляеш спакой. Праблема ў тым, каб гэта кропка не адмерла. Праблема яшчэ ў тым, каб гэтая кропка не адмерла ў большасці. Ці проста абудзілася ад спячкі. Калі баліць, то істота яшчэ жывая. Першая прымета...

Можна доўга разважаць аб прычынах апатыі беларускай інтэлігенцыі. Можна лёгка даказаць, што ўсё абумоўлена, што інтэлігент — таксама ахвяра, што яго трэба шкадаваць. Толькі няма ахвоты гэта рабіць. Таму што ў пісьменніка ў грамадстве іншая роля, чым у калгасніка. І гэта ўсё вырашае. Каму многа дадзена, з таго адпаведна спытаюць.

Можа быць, я напісаў занадта рэзка. Прашу прабачэння. Быў толькі намер націснуць на тую самую болевую кропку. І высветліць, хто з нас яшчэ жывы...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

## ...Перасяліцца ў новы мікрараён

***У перспектыве «Малінаўка» стане адной з лепшых і прыгажэйшых забудоў сталіцы. А пакуль жыццё і сацкультбыт тут, на жаль, не «маліна»...***

— Падкажыце, калі ласка, як даехаць у Малінаўку?

— А вам, прабачце, куды трэба — у вёску ці мікрараён? Прытым у які канкрэтна? — у сваю чаргу спытаў я.

— А што, іх там так шмат, гэтых мікрараёнаў? — толькі і вымавіў мой выпадковы спадарожнік.

І як некалі ўпершыню мне, так і я параіў, якімі нумарамі аўтобусаў ці тралейбусаў яму варта ехаць, і ён абавязкова трапіць туды, куды трэба.

Так, на сённяшні дзень «Малінаўка», бадай, адзін з самых аддаленых ад цэнтра сталіцы мікрараёнаў, але ў той жа час ён і самы новы, малады. Першыя дамы яго пачалі будаваць зусім нядаўна — у 1990 годзе — на месцы невялікай вёскі Дворыцкая Слабада і палёў, сельгасугоддзяў, што былі вакол яе. Аб гэтым цяпер напамінае толькі чародка сельскіх сядзібаў, якія месцяцца ўзбоч вуліцы Касманаўтаў. Праўда, крыху непадалёк знаходзіцца і в. Дворышча. Такім чынам гэтыя апошнія сельскія «астраўкі» апынуліся ў акружэнні гарадскіх кварталаў, але ніхто іх пакуль кранаць-зносіць не збіраецца.

— Усё яно так. Але за сем гадоў, — гаворыць першы намеснік кіраўніка адміністрацыі Маскоўскага раёна Валерый Пінчук, — тут з'явілася ажно восем мікрараёнаў. У іх асноўная колькасць жылых дамоў, амаль 95 працэнтаў, пабудавана ўжо. Засталіся толькі некаторыя асобныя аб'екты, перш за ўсё сацкультбыту, якія на працягу бліжэйшых аднаго-двух гадоў таксама будуць узведзены.

Дарэчы, сёлета пачынаецца будаўніцтва «Малінаўкі-9» — апошняга тут мікрараёна, якое ў 2000 годзе будзе, як плануецца, цалкам завершана.

Але нават і без гэтай новабудоўлі, калі назваць адным агульным словам, то «Малінаўка» па сваіх памерах — велізарны жыллёвы масіў. Па колькасці насельніцтва (140 тысяч чалавек) ён па сутнасці з'яўляецца горадам у горадзе, ці, больш дакладна, — на яго ўскраіне.

Варта адзначыць і такую характэрную рысу. У адрозненне ад ранейшых мікрараёнаў, як правіла, сціснутых і цесных, «Малінаўка» пабудавана маштабна, з размахам. Яе вуліцы, бульвары і праспекты не толькі шырокія, прасторныя, але па волі праекціроўшчыкаў і архітэктараў даўжэзныя, з даволі шырокімі тратуарамі, пралягаюць на некалькі кіламетраў раўнюткімі паласамі.

Здавалася б, тут толькі жыць і радавацца! Тым больш, што гэты, як кажуць, «спальны» мікрараён даволі ціхі, пазбаўлены звычайнага гарадскога шуму і грукату. Да таго ж і ў экалагічных адносінах ён таксама чысты, са свежым паветрам, як у сельскай мясцовасці: акрамя ЦЭЦ-4, тут няма больш ніякіх прамысловых прадпрыемстваў.

Аднак, нават не зважаючы на гэтыя акалічнасці, многія жыхары, з кім давялося гутарыць, не ў вялікім захапленні ад «Малінаўкі! І перш за ўсё па той простай прычыне, што ў мікрараёне адчувальна не хапае аб'ектаў сацкультбыту, у асноўным службаў бытавога абслугоўвання, іх паслуг, такіх неабходных людзям штодзённа.

Асабліва востра стаіць транспартная праблема. На жаль, як слушна зазначае Валерый Іванавіч, на сённяшні дзень склалася парадаксальная сітуацыя: з-за аддаленасці мікрараёна ўзнікла перагрузка на транспарце, бо асноўныя рабочыя месцы знаходзяцца ў цэнтры ці на процілеглым канцы горада, і мінімальны час праезду да іх складае ў сярэднім 50 хвілін. А калі чалавеку трэба ехаць на трактарны, аўтазавод, ва Уручча ці Чыжоўку, то ён траціць яшчэ больш часу. Нават па гэтай прычыне «Малінаўка» з'яўляецца пакуль не вельмі зручнай для пражывання. І выправіць становішча ніякая чароўная палачка не зможа. І ўсё таму, што тут, акрамя як у дзвюх паліклініках, школах, дзетсадах і магазінах, фактычна больш рабочых месцаў няма. Вось і атрымліваецца такі казус: зараз рынычны кошт жылля ў «Малінаўцы», пасля Шабаноў і вул. Асаналіева, адзін з самых нізкіх. У той жа час гаражы тут самыя дарагія ў горадзе, прытым не па кошту будаўніцтва, а па рынку нерухомасці, які складваецца ў Мінску. А ўсё з-за таго, што колькасць уласных легкавых аўтамашын, на якіх людзі ездзяць на работу, увесь час павялічваецца, а стаянак і гаражоў для іх вельмі не хапае.

Наогул, становішча з гарадскім грамадскім транспартам тут — праблема з праблем. І, на жаль, пакуль усе «Малінаўкі» да канца не забудаваны, у бліжэйшы час янорэзка не палепшыцца. Скажам, не заселены 12 дамоў чацвёртага квартала мінулага года, а сёлета дабавіцца іх яшчэ 15. Толькі, напрыклад, у «Малінаўцы-7», як паведаміў начальнік ЖЭС-116 Рыгор Шатэрнік, у лютым-сакавіку будзе заселена васемсот новых кватэр. Так што агульная колькасць насельніцтва павялічыцца, і адпаведна ўзрасце нагрузка на транспарт.

Праўда, у гэтым накірунку нямала робіцца і будзе ажыццёўлена ў перспектыве. Транспартным пытаннем займаецца не толькі адміністрацыя раёна, але і гарвыканкам, асабіста мэр горада. У выніку літаральна днямі ўведзены новы маршрут, і на яго выдзелена дадаткова 8 аўтобусаў. Перад гэтам адкрыты камерцыйны маршрут «Дружная—Малінаўка», на якім упершыню ў Мінску пачаў курсіраваць двухпавярховы аўтобус-экспрэс — неардынарная падзея для горада, прытым без ніякай даплаты дзяржавы.

— І ўсё ж, як бы там ні было, транспартная праблема стаіць вельмі, нават надзвычай востра, — падсумоўвае мой субяседнік. — І зараз мы займаемся ёю з інстытутамі «Мінскпраект» і «Мінскграда» з той мэтай, каб засяродзіць увагу кіраўніцтва горада на тым, што і метро ў першую чаргу павінна «ісці» на Малінаўку. Усе разлікі горадабудаўнікоў, у тым ліку і эканамічныя, паказваюць: яно і акупіцца, і здыме многія гарадскія і транспартныя праблемы.

Але, як і паўсюдна, так і ў «Малінаўцы» не аб адным транспарце думае чалавек. Скажам, якое становішча з магазінамі, куды людзі ідуць, каб купіць хлеб, малако, іншыя прадукты харчавання?

У цэлым сітуацыя з гэтымі гандлёвымі кропкамі нядрэнная, акрамя «Малінаўкі-7», дзе невялікая крама пакуль знаходзіцца ў памяшканні ЖЭС-116. У астатніх жа мікрараёнах па 2-3 магазіны, а ў некаторых — і па 4.

А тым часам у «Малінаўцы-5», па вул. Ясеніна, будуецца рынак, на якім будзе наладжаны гандаль пераважна харчовымі і некаторай групай прамысловых тавараў. Усё робіцца для таго, каб ужо ў ліпені ён прыняў сваіх першых наведвальнікаў.

Вось так, паступова, згодна з праектам забудовы, пры наяўнасці неабходных матэрыяльна-тэхнічных і фінансавых сродкаў, якіх зараз надзвычай не хапае, з'явяцца ў агульнай «Малінаўцы» новая дзесяцігодка, аптэкі і праз пэўны час яшчэ дзве паліклінікі (дзіцячая і «дарослая»), комплексны прыёмны пункт службы быту, лазневапральны комплекс, іншыя аб'екты.

Усё гэта, як кажуць, добра і правільна. Але мяне хвалюе і такое немалаважнае пытанне, як будзе наладжаны культурны адпачынак людзей, асабліва моладзі ва ўзросце 15—18 гадоў, якім па вечарах няма куды падзецца, чым заняцца. На гэта В. Пінчук адказаў так:

— З гэтага навучальнага года ў мікрараёне адкрыты філіял школы мастацтваў, дзе ў адпаведных класах і гуртках дзеці могуць праявіць свае творчыя здольнасці. Для так званых маладых «веселуноў» у доме на вул. Рафіева ўжо ў гэтым месяцы шырока адчыніць дзверы маладзёжны цэнтр з дыскатэкай і клубам.

Зразумела, пакуль усяго гэтага мала. І, каб зменшыць узровень «культурнага дэфіцыту», у «Малінаўцы-6» маладзёжны кааператыў узводзіць два дамы, у якіх прадугледжаны два вялікія памяшканні: у адным — па рабоце з насельніцтвам па месцы жыхарства, у другім — з дзецьмі ў гуртках па інтарэсах.

... Самая характэрная дэталь пейзажу сённяшняй «Малінаўкі», асабліва апошніх яе мікрараёнаў, — гэта вежавыя краны. А гэта значыць, што яна паступова, крок за крокам, будуецца, добраўпарадкоўваецца.

**Іван БРАЛКА,**
*г. Мінск.*

## ПЫТАННЕ АБ БУДАЎНІЦТВЕ АЭС У БЕЛАРУСІ НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ ПАКУЛЬ ШТО НЕ СТАВІЦЦА

**Чуткі аб тым, што ў бліжэйшы час у нашай краіне пачнецца будаўніцтва атамнай электрастанцыі, абверг Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў час наведвання Акадэмічнага навукова-тэхнічнага комплексу «Сосны».**

У інтэрв'ю журналістам ён адзначыў, што цяпер гэта пытанне на дзяржаўным узроўні не ставіцца.

Магчыма, у будучым патрэбнасці краіны ў энергіі ўзрастуць настолькі, што іншага выйсця з сітуацыі, як будаўніцтва ўласнай АЭС, не будзе, сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, адным з фактараў, які можа зрабіць уплыў на прыняцце рашэння аб узвядзенні АЭС, з'яўляецца наяўнасць на тэрыторыі суседніх дзяржаў у непасрэднай блізкасці ад граніц Беларусі цэлага шэрагу дзеючых атамных электрастанцый, якія нясуць патэнцыяльную пагрозу.

З другога боку, адзначыў прэзідэнт, нельга забываць аб разбуральных наступствах, якія прынесла чарнобыльская катастрофа.

У любым выпадку, паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, канчатковае рашэнне па гэтаму пытанню прыме народ. І калі жыхары рэспублікі скажуць «так», АЭС на тэрыторыі Беларусі трэба будзе будаваць, згодна з самымі жорсткімі патрабаваннямі бяспекі. Аднак усё гэта адносіцца да вельмі аддаленай перспектывы, падкрэсліў прэзідэнт.

**Аксана ПІВАВАР,**
**БЕЛТА.**

